С калень падымемо Айчыну нашу мілую і будзем з ёю мы, а з намі будзе Бог!
Ларыса Геніюш

# ЗМАГАР

ВЫДАНЬНЕ СЛОНІМСКАЙ РАДЫ БНФ

СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ 1999г. №1 (5)

На правах унутранай дакументацыі

## Чаму БНФ не ідзе на сакавіцкія выбары ў мясцовыя Саветы?

У жыцьці нашага грамадзтва наступае адказны момант, калі кожны выбаршчык павінен праявіць асабістае сумленьне, грамадзянскую адказнасьць і палітычную культуру. Кожны грамадзянін павінен зразумець, што маючыя адбыцца выбары ў мясцовыя Саветы ў сакавіку 1999 г. — гэта проста дарагое палітычнае шоў. Пры існуючай жорсткай адміністратыўна-каманднай сістэме ўсе выбарчыя органы ў сацыяльным жыцьці грамадзтва ніякай рэальнай ролі не адыгрываюць. Яны зьяўляюцца дэкаратыўнай шырмай, за якой хаваецца дыктатарскі рэжым. Таму БНФ вырашыў ня мець ніякага дачыненьня да гэтага шоў і не выстаўляць сваіх людзей у якасьці кандыдатаў у дэпутаты, ні ў якасьці назіральнікаў на выбарчых участках.




Пры такіх абставінах БНФ не ідзе на выбары і па другіх важных прычынах: па-першае, удзел у выбарах прызнае законнай цяперашнюю Канстытуцыю і легітымнасьць лукашэнкаўскага парламента, што немагчыма; па-другое, патрэбен цывілізаваны і справядлівы закон аб выбарах (на выбарах у Вярхоўны Савет за кандыдатаў ад БНФ аддалі свае галасы больш чым 15% выбаршчыкаў, але яны не займелі там свайго прадстаўніцтва); па-трэцяе, прадстаўнікі БНФ упэўнены, што ў любым выпадку вынікі выбараў будуць сфальсіфікаваны. Затое была б падстава ў "вертыкалі" казаць, што "усё было зроблена сумленна, наглядальнікі былі і ад БНФ"; па-чацвёртае, калі адбудуцца выбары па сцэнарыю "вертыкалі", то гэта будзе добрая маральная падтрымка існуючага рэжыма; па-пятае, БНФ ня можа падзяліць адказнасьць з сёньняшняй уладай за цяжкае становішча нашай дзяржавы, удзельнічаючы ў бутафорскіх Саветах.

Такім чынам, БНФ заклікае ўсіх сваіх прыхільнікаў, усе дэмакратычныя партыі, выбаршчыкаў, маючых элементарную палітычную культуру, байкатаваць сакавіцкія выбары 1999 года ў мясцовыя Саветы разам з намі, з людзьмі, якія прагнуць сьветлай будучыні сваёй незалежнай Радзіме.

**У. Бруцкі**

## Абаронім наш дом — Беларусь!

Слонімскай Радай БНФ "Адраджэньне" 23 студзеня бягучага года ладзіўся пікет на вуліцы Першамайскай у абарону незалежнасьці, супраць аб'яднаньня Беларусі з Расеяй у адну дзяржаву, супраць дыктатуры і зьбяднення людзей. Гарвыканкам не даў дазволу на правядзеньне пікету, пры гэтым тройчы парушыў заканадаўства Рэспублікі Беларусь, яе Канстытуцыю, а таксама "Дэкларацыю правоў чалавека", 50-годдзе якой нядаўна з помпай адзначылі ў нашай рэспубліцы. Але адна справа — словы аб правах грамадзян, зусім іншая — дзеяньні ўладных структур. Тут, як кажуць, дыстанцыя вялікіх памераў.

Адной з прычын забароны пікета, як сьведчыць папера з гарвыканкама, паслужыў фотаздымак у "Газеце Слонімскай" з пікета 13 снежня 1998 г. Гарадскія чыноўнікі лічаць, што гэты фотаздымак зьневажае "честь и достоинство высших должностных лиц государства". На маю думку, немагчыма больш зьняважыць гэтых кіруючых асоб дзяржавы, як яны самыя зьневажаюць сябе сваімі бязглуздымі словамі і дзеяньнямі. Што датычыцца законаў краіны, яе Канстытуцыі, дык для ўладу трымаючых яны не болей як шматкі паперы.

Возьмем хоць бы тыя дамовы, якія падпісаны Ельцыным і Лукашэнкам 25 сьнежня 1998 г. аб плануемым аб'яднаньні Беларусі з Расеяй у адну дзяржаву. Па Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, той, хто пасягае на цэласнасьць і суверэннасьць дзяржавы, караецца па закону як злачынца. У нас злачынцы ходзяць у героях!..

Заклікаю ўсіх грамадзян задумацца, як мы будзем жыць далей ды ці будзем жыць у нармальнай дзяржаве, або ў дзяржаве крымінальнай. Якую будучыню мы рыхтуем сваім дзецям і ўнукам?! Праклянуць яны нас...

Дык абаронім жа свой дом — Беларусь!

**Іван Бедка**

# ЗДРАДА

Ня так шмат часу засталося да прэзідэнцкіх выбараў у Расеі. Зубастыя расейскія палітыкі ўсіх масьцей ужо сёньня рыхтуюць для сябе пляцоўку, каб усесьціся на крамлёўскі трон. Занепакоіліся і ў нас, у Беларусі. Прэзідэнт урачыста, на ўвесь сьвет абвясьціў аб тым, што ствараецца новы саюз — саюз Расеі і Беларусі. Прапаганда дасягнула такіх маштабаў, што нават школьнікі мусяць пісаць сачыненьне на тэму "Расія і Беларусь — браты-славяне". Міжволі задаешся пытаньнем: "А чаму не сёстры-славяне?"... Ды не будзем пра гэта. Мяне, як і многіх маіх суайчыньнікаў, цікавіць іншае: што дасьць нам гэты саюз?

Назіраецца спроба на абломках былога Саюза стварыць новую імпэрыю, каб супрацьпаставіць сябе Захаду? Так. Мы ж добра ведаем, што чорны кот даўно перабег дарогу паміж Аляксандрам Рыгоравічам і Захадам. А навошта мне варагаваць з палякамі, венграмі, італьянцамі, іншымі народамі цывілізаванага Захаду? Што гэта дасьць мне, маім сваякам, суседзям, сябрам і знаёмым? Прыбавіць пенсію, заработную плату? Вядома, не. Многім, хто цешыць сябе надзеяй зарабіць грошы на Захадзе, каб хоць якнебудзь забясьпечыць сваю будучыню і будучыню сваёй сям'і, пасьля падобнага аб'яднаньня прыдзецца глытаць сьлінкі. Як не круці, як не вярці, а гэта так.

Нядаўна мой знаёмы, калі зайшла гаворка пра аб'яднаньне, нявесела пажартаваў: — Аб'яднаюцца два жабракі. І што выйдзе? Бомж!..

Сказана грубавата, але блізка да ісьціны. Не сакрэт, што сёньня Расея нагадвае сабой парахавую бочку. Раптам могуць узбунтавацца шахцёры, як здарылася ў Румыніі, сваё права на самастойнасьць можа аб'явіць Татарстан, Башкірыя ці які-небудзь іншы расейскі рэгіён. Сёньня пакуль удаецца супакоіць Каўказ. А што будзе заўтра, калі расейскі трон займе амбіцыйны і няструманы палітык? Зноў новая вайна, якая палыхне мацней за чачэнскую.

У Расеі і цяпер дзесяткі тысяч бежанцаў, якія жывуць у непрыстасаваных для жыльля памяшканьнях. Новая вайна — гэта новыя сотні тысяч бежанцаў. У агульным саюзе будзе і агульнае грамадзянства. Значыць, многія з бежанцаў стануць уцякаць на Беларусь, далей ад неспакойных расейскіх рэгіёнаў. Як забясьпечыць іх жыльлём, працай, ядой? Думаеш пра гэта і міжволі згадваюцца словы былога расейскага прэм'ер-міністра Віктара Чарнамырдзіна: "Хацелі, як лепей, а выйшла, як заўсёды".

Калі ж мы нечаму навучымся? Калі перастанем наступаць на адныя і тыя ж граблі? Нам абяцаюць, што з'явіцца новая валюта. Я ведаю, што валюта — гэта амерыканскія, нямецкія, ангійскія, японскія грошы. А вось расейскія ніяк у гэты рад не ўлазяць, як ні стараюцца. Ды дзе возьме іх для нас, беларусаў, Расея на сёньня, на заўтра, на пасьлязаўтра, калі толькі за гэты год яна павінна выплаціць міжнародным банкам суму, роўную ўсяму яе гадавому бюджэту?

Многія краіны сьвету на працягу ўсёй сваёй гісторыі імкнуліся да самастойнасьці, да суверэнітэту. Напрыклад, Ізраіль дабіваўся гэтага стагоддзямі. І сёньня ён не просіцца ў Амерыку, хоць і абкружаны варожым яму арабскім сьветам. А беларускія горапалітыкі, што нядаўна дарваліся да ўлады і тыя, што былі пры ўладзе, лезуць у пятлю, як тыя бараны. Не патрэбны нам махляры, што здаюць Беларусь Расеі, а гэта ж ЗДРАДА! Няма цяжэйшага і больш ганебнага злачынства, чымсьці здрада ўласнай дзяржаве і народу.

**Аляксей Якімовіч**

# ЦІ МАЕ БНФ ЭКАНАМІЧНУЮ ПРАГРАМУ?

Некаторыя групы нашага насельніцтва маюць цьмянае ўяўленьне аб Праграме Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", а нашыя нядобразычліўцы хлусьліва прыпісваюць нашай арганізацыі такія праграмныя палажэньні, якіх у гэтай праграме няма і не магло быць! Каб данесьці да чытача сапраўдную праграму нашай партыі, друкуем асноўныя яе палажэньні.

**З Праграмы БНФ "Адраджэньне". Эканамічная рэформа.**

Мэта рэформы, якую адстойвае БНФ, — стварэньне сучаснай і эфектыўнай эканомікі, здольнай забясьпечыць годнае жыцьцё грамадзянаў.

Прынцыпы рэформы:

— рэфармаваньне эканомікі магчымае пры наяўнасьці інстытутаў дзяржаўнасьці: мяжа, мытня, уласная валюта і крэдытна-фінансавая палітыка;

— прызнаньне права прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці і зямлю;

— безумоўнае захаваньне прынцыпаў недатыкальнасьці ўласнасьці і гарантыяў права ўласнасьці;

— забесьпячэньне свабоды эканамічнай і гаспадарчай дзейнасьці, свабоды спажываньня;

— структурная перабудова эканомікі на аснове рынкавых падыходаў;

— стварэньне умоваў для замежных інвестыцыяў;

— валютная рэформа і замацаваньне талера, як адзінага платнага сродку ў краіне;

— цэнавая структурная рэформа;

— крэдытна-фінансавая палітыка, накіраваная на зьніжэньне інфляцыі, на ўстойлівасьць талера і цэнаў, як аснову для стабілізацыі прадпрыемстваў;

— новая бюджэтная і падатковая палітыка, заснаваная на падзеле бюджэтаў і мясцовага самакіраваньня, дзяржавы і прадпрыемстваў, на атрыманьні падаткаў з уласнасьці, адмова ад фінансаваньня з дзяржаўнага бюджэту камерцыйнай дзейнасьці прадпрыемстваў;

— сацыяльная палітыка падтрымкі неабароненых пластоў насельніцтва за кошт частковага пераразьмеркаваньня даходаў праз падаткі;

— мытная абарона ўласнай вытворчасьці;

— рух рабочай сілы да рабочых месцаў, а не наадварот.

Першыя крокі рэформы:

1. Раздзяржаўленьне прадпрыемстваў. Для гэтага:

— удакладняюцца дачыненьні

# ЦІ МАЕ БНФ ЭКАНАМІЧНУЮ ПРАГРАМУ?

уласнасьці, дыферэнцуюцца даходы уласьніка, наёмнага працаўніка, прадпрымальніцкі даход;

— ацэньваюцца ў цьвёрдай валюце капітал прадпрыемстваў і стаўкі даходаў;

— заключаюцца дамовы паміж дзяржавай-уласьнікам і групай прадпрымальнікаў;

— прадпрыемствам, незалежна ад формы уласнасьці, даецца поўная самастойнасьць у вытворчасьці і рэалізацыі прадукцыі;

2. Уводзіцца прыватная уласнасьць на зямлю;

3. Рыхтуюцца і праводзяцца валютная і цэнавая структурная рэформы.

4. У мэтах дэманапалізацыі і канкурэнцыі дасягаецца мноства пастаўшчыкоў і спажыўцоў;

5. Рыхтуецца прыватызацыя, пры якой большая частка дзяржаўнай уласнасьці перадаецца грамадзянам і ствараецца недзяржаўны сектар эканомікі;

6. Ствараецца служба занятасьці і адмысловыя фонды грамадзкіх працаў і беспрацоўя.

Інтэграцыя Беларусі ў сусьветную гаспадарку праз прыярытэтнае разьвіцьцё некалькіх персьпектыўных галінаў вытворчасьці.

**Сацыяльная абарона грамадзянаў**

Да ліку арыентаванай на чалавека сацыяльнай палітыкі належаць:

— абарона ад стратаў і галечы;

— сацыяльная дапамога перш за ўсё шматдзетным і няпоўным сем'ям;

— індывідуальная падрыхтоўка да магчымых жыцьцёвых цяжкасьцяў;

— стварэньне падстаў для паляпшэньня жыцьцёвых умоваў усяго насельніцтва.

Пасьля атрыманьня ўлады паўстане важная і актуальная задача адраджэньня ў людзей веры ў сацыяльную справядлівасьць, калі прыстойныя чалавечыя ўмовы будуць забясьпечаны ня толькі энергічным і прадпрымальным людзям, але і хворым, і пенсіянерам, і шматдзетным сем'ям.

І гэта патрэбна зрабіць ва ўмовах крызісу. Пагэтаму шматлікія сацыяльныя прывілеі здаровым і здольным працаваць, створаныя камуністычнай сістэмай, будуць ліквідаваны. Старыя, шматдзетныя маці, інваліды, тыя, хто страціў працаздольнасьць, — усе яны маюць права на разьмеркаваньне валавага грамадзкага прадукту.

Дзяржава, стварыўшы ўмовы для ініцыятывы здаровых і моцных, абараняе слабых і тых, хто ў меншасьці, у іх імкненьні да рэалізацыі сваіх шанцаў.

Яна павінна даць усім **інвалідам** магчымасьць для раскрыцьця іх прафесійных і духоўных здольнасьцяў. Мае быць пашырана сістэма медычных мерапрыемстваў, актыўная дапамога ў рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў любога ўзросту, будаўніцтва майстэрняў, інтэрнатаў і дамоў для інвалідаў.

У духу павагі чалавечай годнасьці павінна будавацца сістэма сацыяльнай дапамогі састарэлым, ветэранам. Захаваньне здароўя — клопат ня толькі асобы, але і ўсяго грамадзтва. Шанцы быць ці стаць здаровым павінны быць аднолькавымі для ўсіх грамадзянаў. Гэта азначае, што пацыент мусіць мець свабоду выбару лекара і шпіталя незалежна ад яго статуту ў грамадзтве і месца пражываньня.

Побач з дзяржаўным **бясплатным** лячэньнем і медычным абслугоўваньнем насельніцтва павінны з'явіцца і платныя прыватныя ці калектыўныя лякарні.

Павінна разьвівацца страхавая медыцына, а агульныя выдаткі дзяржавы на сістэму здароўя павінны складаць пастаянны працэнт ад валавага нацыянальнага прыбытку на ўзроўні агульнапрынятай нормы. Прафілактыка і санітарная адукацыя павінны стаць найважнейшым клопатам дзяржаўнай сістэмы аховы здароўя.

Меркаваньні эканамічнай і сацыяльнай мэтазгоднасьці патрабуюць, каб сацыяльныя льготы распаўсюджваліся на тых, каму яны сапраўды патрэбныя:

— прэтэнзіі на сацыяльную дапамогу падмацоўваліся асабістым удзелам альбо самаабмежаваньнем на карысьць грамадзтва.

Лепш засьцерагчыся ад сацыяльнага зла, чым змагацца зь ім у будучыні. Лепш дапамагчы сям'і ў выкананьні задач выхаваньня, чым фінансаваць дарагія мерапрыемствы ліквідацыі стратаў, якія могуць быць выкліканы сацыяльнымі паводзінамі:

— папярэдзіць няшчасныя выпадкі, чым змагацца зь іх вынікамі;

— захаваць здароўе, чым лячыць хваробы;

— пазьбягаць росту колькасьці бедных, чым падтрымліваць людзей, якія згубілі веру ў свае сілы і сацыяльную справядлівасьць.

## З АРХІВА



*Пікет Слонімскага БНФ. 1 траўня 1990г.*

# СТАРАЮЦЦА ЗАМАРЫЦЬ...



***Пікет Слонімскай Рады БНФ. 23 студзеня 1999г.***

Прачытаўшы артыкул у газеце "Слонімскі веснік" ад 28 студзеня гэтага году пад загалоўкам "Суботні дэсант" у скверыку ля танка", шмат чаму зьдзівіўся, бо на свае вочы бачыў усё, што там адбывалася. Найперш хачу адзначыць, што ўдзельнікаў пікету было 16 чалавек, а не дзесяць. Мусі той пісака не навучыўся лічыць да шаснаццаці.

Згодны, дазволу ад ўладаў не было. Аднак, пры адмове ўлады парушылі: закон аб мовах (адказ на расейскай мове, а не на беларускай), закон аб шэсьцях, дэманстрацыях, мітынгах, сходах, пікетах (адказ дасланы за чатыры дня, а не за пяць, як патрэбна), Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і Дэкларацыю правоў чалавека, дзе запісана, што кожны чалавек мае права на свабоднае волевыяўленьне.

Аўтар артыкула, відаць, слухае толькі А. Лукашэнку і глядзіць па ТБ Зімоўскага. А калі б ён паглядзеў на цэны ў крамах, ды на заробак рабочых, настаўнікаў, медыкаў і сялян!.. А можа гэты аўтар атрымлівае 20 мільёнаў за "лапшу на вушах" простых і даверлівых людзей гаворачы лухту, пра наша «заможнае» жыцьцё? А як наконт таго, гаспадзін пісака, што чатыры гады таму мы атрымлівалі каля 50 даляраў заробак, а цяпер толькі 12 даляраў! Зноў-жа відаць, што недавучыўся аўтар, бо ў яго атрымліваецца, што на 12 даляраў жыць лепш, чым на 50! Дык хто тут што каламуціць?!

Так, не ў лахманах там стаялі сябры Беларускага Народнага Фронту. Але ж тое, што было адзета на мне, куплена сем гадоў назад, і так у большасьці грамадзянаў, упэўнены, даношваюць старое, даядаюць апошняе…

Так, не замораныя пакуль, але ў тым няма вялікай заслугі кіраўнікоў дзяржавы, яны ж кожны дзень стараюцца, каб замарыць. А працавіты беларус трымаецца.

**Сымон Рошчын**

# *Ці даруе нам Бог?*

Хто ад сьцягу Хрыста адвярнуўся,
Утаптаўшы сьвятыню ў бруд,
Той на ўзбочч жыцьця апынуўся,
Не адчуўшы сумленьня пакут.
 Побач з намі вірує Эўропа,
 Спора ладзячы свой дабрабыт —
 Мы ж як быццам чакаем **патопу**,
 Пакуль прыйдзе аднекуль **найміт**.

Ён па-свойму ўсё улагодзіць,
Дасьць "задарма" і нафту, і газ,
Будзе новыя звычкі заводзіць,
Забярэ толькі памяць у нас,
 Каб, укленчыўшы перад іконай,
 Быў ніводзін не ў стане ўзгадаць,
 Як да Бога маліць сваёй мовай,
 Каб пачуў ён — і змог **даравацьь**.

**В. Барташэвіч**

# Як жывуць нашыя суседзі-літоўцы

Давайце шчыра пагутарым на гэтую тэму.

— Хто лепш жыў у складзе СССР — беларусы ці літоўцы?

— Хто да каго езьдзіў за прадуктамі харчаваньня і іншымі таварамі?

Адказ адназначны: мы езьдзілі да літоўцаў.

— А чаму яны першымі заявілі аб выхадзе з СССР?

— Ды таму, што захацелі жыць яшчэ лепш, самім распараджацца сваім лёсам, а не жыць па ўказцы маскоўскага намесьніка.

— І якія вынікі цяпер у нашых суседзяў-літоўцаў?

Вось толькі некаторыя апошнія даныя аб жыцьці літоўцаў.

1 даляр = 300 тыс.руб. на 15.01.99

Заробкі бюджэтнікаў:
настаўніка — 250-280 даляраў,
урача — 350-400 даляраў,
медсястры — 195 даляраў,
няні ў дзіцячым садку — 120 даляраў,
мінімальны заробак — 100 даляраў,
сярэдняя пенсія — 125 даляраў.

Цэны ў беларускіх рублях:
Масла 1кг — 600 тыс.,
каўбаса 1кг — 500-600 тыс.,
свініна 1кг — 400-600 тыс.,
рыба (карп) 1кг — 360 тыс.,
цукар 1кг — 170 тыс.,
куры 1кг — 500 тыс.,
яйкі (1 дзесятак) — 120 тыс.,
яблыкі 1кг — 120 тыс.,
бананы 1кг — 120 тыс.
мандарыны 1кг — 250 тыс.,
апельсіны 1кг — 250 тыс.

А якія ж заробкі ў нас, у Беларусі:
настаўніка — 25-30 даляраў,
урача – 28-30 даляраў,
медсястры — 10-12 даляраў,
няні ў дзіцячым садку — 8 даляраў,
сярэдняя пенсія — 11 даляраў.

А цэны ў Беларусі і Літве амаль што аднолькавыя. Розніца ў тым, што цэны ў Літве стабільныя, а ў Беларусі з кожным месяцам яны катастрафічна павышаюцца. Заробкі ў беларусаў рэальна (у даляравым эквіваленце) не павышаюцца, а паніжаюцца.

У асноўным масы насельніцтва Беларусі заробка і пенсіі хапае на самае беднае харчаваньне. Жывем на тры Д: даношваем, даядаем, дажываем.

А чаму так сталася — думайце і рабіце высновы.

**Мікола РАКЕВІЧ**

**ЗМАГАР**

Выданьне Слонімскай Рады БНФ.
Выходзіць з 1998 г.
Кантактныя тэлефоны:
2-27-45, 3-12-84.

Рэдактар Паўлюк ДУБІНА
Наклад 299 паасобнікаў.